# Кавардачок

№ 1, лістапад

Інфармацыйнае выданьне для ўсіх



Чытайце на старонцы 3

Чытайце на старонцы 3

# КОТКІ: СЯБРЫ АБО САЮЗЬНІКІ?

# МАЦНЕЙ ЗА СЬМЕРЦЬ

*Варвара Празароўская, Кацярына Бібікава... Гэтыя жанчыны воляй лёсу апынуліся спадарожніцамі жыцьця знакамітых рускіх палкаводцаў. Ці былі яны шчасьлівыя побач са сваімі вялікімі мужамі?*

Аляксандар Сувораў не прайграў ніводнага змаганьня.Стварыў цэлую “Навуку перамагаць”. За ўсе свае подзьвігі ён атрымаў гучныя тытулы ды ўзнагароды. Ягоныя грудзі зьзялі залатым ды дыямэнтавым бляскам. Вялікая слава. Амаль сыноўняе пачытаньне з боку салдат. Гнаайглыбейшая павага афіцэрскага корпуса. Іншая справа — царскі двор. Няўжыўны, нясьцерпны, эксцэнтрычны Сувораў не жадаў ды ня ўмеў гнуць шыю ў палацах, не жадаў удзельнічаць у інтрыгах ды разгадваць дварцовыя таямніцы. Адсюль — царская няміласьць, адстаўкі ды апала. І гэта пры гучных фанфарах перамог! Сам гэнэралісімус сьцвярджаў, што ў яго сем ран: дзьве атрыманыя на вайне ды пяць пры двары, але апошнія, па яго словах, былі нашмат пакутлівей за першыя.

Выраз “Ды й на сонейку ёсьць плямы” поўнасьцю стасуецца да рускага ваеннага генія Аляксандра Суворава. Сапраўдная нязмыўная пляма — яго стаўленьне да жонкі. Ня тое, каб ён быў жонканенавісьнікам, не, ён проста не заўважаў жанчын: яны яму былі непатрэбныя. Ягоная крывя грала толькі ў бойцы, калі бачыў ворагаў. Вораг — вось варты аб'ект увагі для сапраўднага мужчыны, а ня нейкая там барышня ў стужачках, рушках ды аборачках. Т так жыў ды змагаўся Аляксандар Сувораў да 43 гадоў. Ніякіх жанчын. Ніякіх інтрыжак. Але тут узбунтаваўся яго бацька ды прысароміў адзінага сына, што,маўляў,непрыстойна быць аднаму . Аляксандар пярэчыць ня стаў і нават растлумачыў сваю згоду на шлюб гэткім разважаньнем: «Мяне нарадзіў бацька, і я павінен нарадзіць, каб адзьдзякаваць бацьку за маё нараджэньне». А гэта значыць шлюб як працяг роду, ня больш за тое.

Аднак ня гэтага жадала падабраная Суводраву нявеста зь сям'і абяднеўшага князя — Варвара Празароўская. Яна была прыгожая па-руску: статная, акруглая ды румяная зь вялікімі зялёнымі вачыма. Жаніх ёй не спадабаўся: немалады, маленькага росту, дробны, дый манэры нейкія рэзкія, быццам бы загады аддае: налева – направа, легчы -- устаць. Стары князь заўважыў настрой дачкі, але разважыў так: сьцерпіцца — зьлюбіцца, з твару ваду ня піць.У хуткім часе пасьля вясельля атрымаў новы чын гэнэрал–паручніка Сувораў і выправіўся падаўляць пугачоўскі бунт. Замест баляў ды прыёмаў, музыцаваньня ў гасьцінных ды вершаў у альбом Варанька Празароўская вымушана была весьці вандроўнае, бівуачнае жыцьцё, ды й грошаў на аздобы не хапала: Аляксандар Васілевіч аказаўся мужам прыжымістым і нават скваппным. У жніўні 1775 года Варвара Іванаўна нарадзіла дачку Наталію, Суворачку. Пасьля выдаліся дзьве няўдалыя цяжарнасьці, ды як ім і ня быць: увесь час пераезды па раздоўбаных дарогах у благіх экіпажах. Такім жыцьцём жонка Суворава пачала нудзіцца і ўсё часьцей пачала ігнараваць бліскучыя падарожжы мужа, застаючыся дома. Вось тут ужо ў Аляксандра Васілевіча разгулялася рэўнасьць. Чалавек маланкавых рашэньняў, ён хутка ажаніўся, а зараз хутка захацеў разьвесьціся.



Чалавечыя ўзаемаадносіны - гэта не заўсёды ўсьмешка й радасць, любоў і каханьне...

Ён падае чалабітную на імя Кацярыны ІІ, у якой абвінавачвае жонку ў здрадзе са сваім стрыечным пляменьнікам. Пасьля адмовы пачынае марудную цяганіну з разводам. У жніўні Варвара Іванаўна нарадзіла сына Аркадзя, якога Сувораў не прызнаў за свайго. Разбураны шлюб палкаводца ня быў адменены, але мітрапаліт Платон, зразумеўшы патрэбы героя Расеі, дазволіў жыць асобна ад жонкі. Сувораў скарыстаўся з гэтых абставінаў, а жонцы палажыў мізэрнае ўтрыманьне, ды да таго ж пазбавіў даху над галавой. Давялося Варвары Іванаўне вярнуцца ў бацькоўскі дом. Але й гэта ня ўсё. Сувораў адабраў у яе дзяцей. На ўсе просьбы аб дапамозе адказваў: «Сам вінаваты, а пагэтаму дапамагчы не магу». У рэшце рэшт царскі двор прымусіў Суворава выдзяліць дом у Маскве ды больш-меньш прыстойнае ўтрыманьне для былой жонкі.

6 траўня Аляксандар Сувораў памёр, так і не ўзгадаўшы пра яе. Праз восем год, не дажыўшы і да пяцідзесяці трох год, памерла й княгіня Італійская, і спакутаваная, калісьці вясёлая ды наіўная, бесклапотная істота Варанька Празароўская.

Вось і ўся гісторыя — на жаль, ніякага не каханьня, а гаротных узаемаадносін паміж вялікім палкаводцам ды простай зямной жанчынай — Варварай Празароўскай

Сямейным шчасьцем, якога была пазбаўлена жонка Суворава, лёс шчодра адарыў жонку іншага вялікага палкаводца — Міхала Кутузава. Кацярына Бібікава была дачкой генерал–паручніка Ільлі Бібікава. Яна мела жвавы розум, цьвёрды характар, была вельмі вясёлай ды энэргічнай. Заўсёды цікавілася навінкамі літаратуры, завабіла гэтым і Міхала. Між іншым, захапленьне легла на добрую глебу, таму што Кутузаў лічыўся адным з самых адукаваных афіцэраў свайго часу. Акрамя каханьня, гэта была яшчэ й сувязь па інтарэсах. У іх усё заўсёды было ўзаемна. Яны шмат вандроўнічалі па Эўропе, сустракаліся зь цікавымі людзьмі. Кутузаў заўсёды з задавальненьнем вяртаўся дамоў з вайсковых вандровак. Дзяцей Міхал Іларыёнавіч вельмі любіў ды сумаваў, калі быў далёка ад дому.

Вясельле адбылося 27 красавіка 1778 года. За чатыры гады да гэтага Кутузаў быў паранены куляй навылёт у галаву адзаду вачэй. Па сьведчаньнях сучаснікаў, Кутузаў ня проста размаўляў, але граў языком. Гэта быў іншы Моцарт альбо Расіні, які заваражваў слых размоўным сваім смычком. Гэтак Кутузаў заваражыў і Кацярыну Бібікаву.

16 красавіка 1813 года Галеніш-чаў-Кутузаў, князь Смаленскі, памер. Яны пражылі ў шчасьлівым шлюбе амаль 40 гадоў, і вось Лізавета Ільінічна засталася адна, бяз мужа, але з шматлікімі дзецьмі ды ўнукамі. Аляксандар Першы назначыў удаве фэльдмаршала пэнсію і аплаціў усе пазыкі сямейства.

Удава Кутузава памерла 23 чэрвеня 1824 года. Яе воля быць пахаванай разам з мужам у Казанскім саборы не была выканана. Не пажадаў гэтага імпэратар, але каханьне мацнейшае за сьмерць. І гэта — ісьціна, якая не патрабуе доказаў.

**Сьведка ўсіх падзеяў**

# СЯБРЫ АЛЬБО САЮЗЬНІКІ?

*Сярод вялікай колькасьці асьпектаў узаемаадносін чалавека з коткамі, бадай што, асаблівую цікавасьць уяўляе пытаньне аб паходжаньні свойскіх котак як у цэлым, так і асобных іх парод. Ды й само пытаньне аб адамашваньні котак не адзначаецца спэцыялістамі аднолькава.*

Асобныя вучоныя лічаць, што не чалавек адамашніў котку, а яна зрабіла гэта самастойна, або, як пра гэта трапна сказаў Р. Кіплінг, "Сама па сабе" прыйшла да чалавека, каб знайсьці ў яго ежу й ахову ад ворагаў, у асноўным захаваўшы пры гэтым сваю незалежнасьць, характар і зьнешні выгляд.

Котка да апошняга часу, а месцамі яшчэ й зараз, займала й займае асаблівае месца сярод усіх свойскіх жывёл. Яна меней за іншых зьмяніла сваё зыходнае аблічча, а ня талію.

Надта мала зьмяніўся й характар котак, іх прывязнасьць да месца жыхарства (а не да гаспадароў, як гэта характэрна для сабак) пры ўмове даволі значнай свабоды перасоўваньняў у межах свайго індывідуальнага ўчастку. Праўда, коткі выяўляюць дзіўную біялягічную пластычнасьць у сваіх паводзінах, так што ніколі нельга прадказаць із стоадсоткавай гарантыяй, як асобныя таварышы павядуць сябе ў тым або іншым выпадку.

Зьдзіўляюць, напрыклад, грандыёзныя вандроўкі котак да мясьцінаў ранейшага месца жыхарства. Пакуль незразумелыя спосабы іх арыентыроўкі ў гэткіх вандроўках. У Францыі адна котка, вяртаючыся да ранейшага дома, прайшла 165 міль за 11 дзён. З Тулы і Уладзіміраўскай вобласьці каты вярталіся за 3 месяцы. У Італіі котка вярнулася ў родны дом за 880 кілямэтраў.

У 1905 годзе з ЗША прыйшло яшчэ больш дзіўнае паведамленьне: кот ветэрынара зь Нью-Ёрка, што пераехаў у Каліфорнію, праз 5 месяцаў зьявіўся ўсьлед за ім і адразу лёг у свой любімы фатэль. Ён ня толькі паставіў своеасаблівы рэкорд, прайшоўшы 4000 кілямэтраў, пераадольваючы рэкі й горы, але й задаў спэцыялістам яшчэ пару загадак. Па–першае, чаму ён вярнуўся не дадому, а знайшоў новае месца жыхарства гаспадара. Па–другое, як ён арыентаваўся ў дадзеным выпадку. Калі пры вяртаньні жывёл дамоў спэцыялісты тлумачаць гэта пачуцьцём "хомінга" — "хаты", то тут могуць узьнікнуць думкі аб біяпалях і г.д.





Увогуле ў іх біялёгіі, як і ў іх гісторыі, шмат дзіўнага й загадкавага. Большасьць вучоных лічаць, што адамашваньне коткі адбылося ў Эгіпце 3–5 тыс. гадоў назад і што продкам яе зьявілася дзікая лубійская котка. Але разам з тым шэраг айчынных і замежных вучоных адзначылі, што рэшткі катоў у значнай колькасьці знаходзяцца ў пасяленьнях народнасьцяў Каўказа і Усходняга Міжземнамор'я эпохі нэаліту. Гэта значыць, што адамашваньне катоў налічвае 9-цітысячагадоваю гісторыю.

Польскі спэцыяліст М. Здан лічыць, што ад прыручэньня да адамашваньня ката прайшло даволі шмат стагодзьдзяў. За гэты час кот прывязаўся да чалавека, магчыма, браў ежу зь ягоных рук, але заставаўся дзікім.

Свайго росквіту ўзаемастасункі чалавека з катом дасягнулі ў Эгіпце каля 2 тыс. году н. э. Тады кот стаў ужо ня толькі свойскай жывелай, але й аб'ектам культуры: у Геліяполісе, Бутастысе, храме багіні Бастэг, куды ў рытуальныя дні сьцякаліся сотні тысяч людзей. Эгіпцяне ня толькі зьмяшчалі вялікую колькасьць сьвяшчэнных катоў, але й рабілі іншыя статуэткі.А па сьмерці ката яго гаспадары спраўлялі трызну, брылі бровы. Саміх жа загінуўшых хавалі ў драўляных, залатых і іншых трунах — у залежнасьці ад маёмасьці сям'і. Буйнейшае із знойдзеных захоўваньняў котак у Эгіпце налічвала 800 тыс. мумій. Забойства коткі, нават незнарок, каралася сьмерцю.

З Эгіпта свойскія каты трапілі ў Аравію, Індыю. За 600 год да н. э. дасягнулі Сіяма ды Кітая. У Старажытнай Грэцыі і Рыме яны зьявіліся на 200 гадоў пазьней. Зь Італіі ў XII ст. яны трапілі ў Эўропу. У XVII стагодзьдзі іх завезьлі ў Паўночную, а праз стагодзьдзе і ў Паўднёвую Амэрыку.

У кожным новым месцы лёс котак складваўся па–рознаму. У адных краінах іх высока цанілі як дэкаратыўных жывёл, ворагаў мышэй ды пацукоў. У Англіі на ўтрыманьне кожнай казённай коткі, што выкарыстоўвалася для аховы харчовых складоў, ужо ў нашым стагодзьдзі адлічвалася па 6 пэнсаў у тыдзень. На такім жа "давольстві" знаходзіліся коткі, якія ахоўвалі кніжныя й іншыя каштоўнасьці Брытанскага музэю ад мышэй. У Аўстрыі котка, што адслужыла шэраг гадоў на ахове складоў, атрымлівала пэнсію, якую выдавалі як малаком, так і мясам ды булёнам.

У Францыі ды шэрагу іншых дзяржаў Эўропы каталіцкія сьвятары адмаўляліся прызнаваць котку свойскай жывёлай з тае падставы, што яе не было ў Ноевым каўчэгу. Асабліва актыўна перашкаджалі жыць чорным коткам.

З асаблівай павагай ставіліся да котак у Сіяме ды Японіі, дзе яны лічыліся абярэгамі храмаў.

Эстэтычная й навуковая цікавасьць да катоў пачала праяўляцца з канца мінулага ды пачатку гэтага стагодзьдзя, асабліва ў сувязі з разьвіцьцём гэнэтыкі й абвастрэньнем экалягічнага становішча.

У 1881 годзе ангельскія аматары катоў арганізавалі выставу сваіх "падшэфных", а ў 1887 годзе — Нацыянальны клюб катоў, які існуе да гэтага часу. У1899 годзе клюб аматараў котак быў створаны ў Чыкага (ЗША), у 1919 — у Аўстраліі, у 1922 — у Германіі, у 1926 — у Францыі, у 1934 годзе — у Польшчы і г. д. Зараз падобныя клюбы існуюць у дзесятках краін сьвету. А з 1949 года створана Міжнародная Фэдэрацыя Котак — Federation International Feline (FIF). Падобныя клюбы ствараюцца і ў нашай краіне. Так у Менску 8 год таму арганізаваны клюб "Кацяня".

**З 28 па 29 кастрычніка ў Гомлі прайшоў сэмінар для моладзі з рэгіянальных гарадоў Гомельскай вобласьці на тэму: "Стварэньне маладзёвай грамадзкай ініцыятыўнай групы". Гэты сэмінар праводзілі два трэнэры Моладзевага Цэнтра "ГАРТ" — Алесь Карніенка ды Юнэля Сальнікава.**

Спачатку мы сустрэлі гасьцей, якія павінны былі прыехаць да нас з рэгіянальных гарадоў Гомельскай вобласьці, пасьля паабедалі ў рэстарацыі гатэля й пайшлі на месца праходжаньня сэмінара. У гэтым сэмінары прымала ўдзел моладзь з: Мазыра, Петрыкава, Жлобіна, Рагачова, Рэчыцы, Сьветлагорска, Церахоўкі ды некалькі чалавек з самога Гомля. А ўвогуле ў сэмінары прымала ўдзел 23 чалавекі. Незвычайным у гэтым сэмінары было тое, што пачаўся ён пасьля абеда.

Галоўнай мэтай удзельнікаў сэмінара была вось якая: "Дастаць асноўныя веды й уменьні, неабходныя для стварэньня маладзёвай грамадзкай ініцыятыўнай групы".

Займаліся да 8 гадзін вечара з кававымі перапынкамі ды гульнямі. Па настроі ўсіх удзельнікаў было відаць, што сэмінар спадабаўся. Потым мы разам пайшлі ў рэстарацыю вячэраць, а пасьля пайшлі хто дадому, а хто ў свае нумары распрацоўваць плян па адной з праблем, якую кожная група сабе абрала.

Раніцай у нядзелю сустрэла сяброў, і мы пайшлі на месца правядзеньня сэмінара. Настрой быў ва ўсіх розны, таму што ня ўсе перавялі свае гадзіньнікі на гадзіну назад і менавіта з гэтай прычыны ўсталі раней.

Прыйшоўшы на сэмінар, пачалі працу, якую ў суботу пакінулі незавершанай. Пасьля гэтага ўсімі любімыя трэнэры правялі гульню-разьмінку, пасьля якой мы пачалі распісваць місыю ГА. Пасьля распісваньня місыі Алесь зь Юнэляй прапанавалі выказаць у малюнку місыю ГА праз пяць год.

Пасьля гэтага ў нас быў кававы перапынак, у часе якога тыя, хто жадаў, абмяняліся адрасамі ды нумарамі тэлефонаў. Пасьля перапынку кожны вызначаў на колькі адсоткаў зьдзейсьнілася мэта, зь якой кожны прыйшоў на сэмінар,а ужо пасьля ацэнкі нам прапанавалі запоўніць анкету. Потым мы сталі ў кола і пачалі перадаваць клубок, хто каму жадаў, пры ўмове, што клубок павінен быць у чалавека толькі адзін раз, а калі яго перадаюць — нешта жадаюць. У нас атрымалася павуціньне, якое мы потым разрэзалі пасярэдзіне. І кожнаму засталася нітка на ўспамін аб гэтым сэмінары.

Пасьля мы пайшлі ў рэстарацыю абедаць, а пасьля абеда ўсе разьехаліся па дамох. Як не хацелася разьвітвацца!



# МАЯ ТУСОЎКА

**У Гомлі з 25 па 26 кастрычніка прайшоў сэмінар на тэму "Мая тусоўка", які праходзіў у будынку БСМ. БСМ (для тых, хто ня ведае) — гэта Беларускі Саюз Моладзі.**

Першы дзень сэмінару пачаўся з таго, што ўся запрошаная моладзь прыйшла ў дамоўленае месца ў дамоўлены час. Вось доўгачаканыя 10 гадзін. Сьвятлана ды Мікалай — гэта трэнэры БСМ, якія праводзілі сэмінар, — пачалі із знаёмства з удзельнікамі яго. А знаёмства заключалася ў тым, што кожны павінен быў назваць не сапраўднае імя, а тусовачнае.

Імёны былі розныя. Былі такія, што адпавядаюць сапраўднаму імені, а былі й такія, што зусім не адпавядаюць сапраўднаму. Напрыклад, такія імёны, як: Бублік, Лілу, Мальвіна, была нават дзяўчына, якую на самой справе звалі Вольга,а тусовачнае імя — Даша. Заўважна розніца?

Такім чынам, у нас стварылася адна вялікая тусоўка, ажно з 21 чалавека, у гэту тусоўку ўваходзілі прадстаўнікі розных тусовак, але спрэчак паміж імі не было, таму што кожны прытрымліваўся нормаў, якія мы разам прынялі. Найбольш важнымі зь іх былі: "Прымаць усіх такімі, якія яны ёсьць", "Прымаць сябру сябра, як суразмоўцу", "Крытыкуй погляд, а не чалавека".

Потым Сьвятлана зь Мікалаем прапанавалі нам разьбіцца на 3 тусоўкі такім чынам, каб у ёй не было знаёмых дагэтуль людзей. Пасьля мы задаліся пытаньнем: "Як людзі аб'ядноўваюцца?", і пасьля апытваньня кожнага атрымалася такая вось карціна: кагосьці паклікалі, а нехта сядзеў бліжэй да незнаёмых, некаму спадабаліся людзі, а нехта задаўся мэтай шукаць незнаёмых, а хтосьці абраў тых, зь кім было прыемна размаўляць падчас сэмінара, знайшліся й такія, каму была лянота куды-небудзь ісьці, а камусьці спадабалася крэсла і ён не жадаў абмяняць яго на іншае. Пасьля гэтага трэнэры прапанавалі даказаць, што наша тусоўка лепшая. На доказы пакінулі 15 хвілін. Усе пачалі нешта абмяркоўваць ды занатоўваць, а мая тусоўка пачала тусавацца, але ў гэты ж час не перашкаджаць іншым.

Пасьля доказаў "Якая тусоўка лепей?" мы пачалі вызначаць каштоўнасьці тусовак, гэта значыць: "Чаму людзі імкнуцца ў тусоўку?" І вось мы ўсе разам вызначылі 12 каштоўнасьцяў тусоўкі: адна зь іх — гэта добрахвотнасьць, другая — гэта тое, што ў кожнай тусоўцы ёсьць група па цікавасьцях,.людзі ў тусоўцы атрымліваюць узаемаразуменьне ды ўзаемапавагу, у тусоўцы добра бавіць вольны час разам, у тусоўцы прaяўляецца зацікаўленасьць у лёсе сяброў, а нехта прыходзіць у тусоўку у дзеля атрыманьня інфармацыі, іншыя — дзеля змены настрою, а нехта дзеля таго, каб добра паразмаўляць, а іншым — проста весела, а хтосьці выкарыстоўвае тусоўку, як спосаб для забавы, а нехта выкарыстоўвае, як спосаб самавыказацца.

На наступны дзень нам прапанавалі падзяліцца на тусоўкі па 3 чалавекі. Кожная тусоўка павінна была прыдумаць сваю мову, навучыць гэтай мове людзей з дзьвюх іншых тусовак ды вывучыць дзьве іншыя мовы.

Потым нам напісалі некалькі слоў, на падставе якіх мы павінны былі зрабіць свой слоўнік.

А пасьля гэтага Сьвятлана зь Мікалаем правялі ананімнае апытваньне кожнага, дзе задалі такое пытаньне: "Вам прапанавалі вандроўку на 3 месяцы ў пяць эўрапэйскіх краін, а ваша тусоўка застаецца ў Гомлі ды паедзе ў Сочы. Што вы абераце?" Вынікі апытваньня атрамаліся такімі: Сочы абралі 13 чалавек, а іншы варыянт — 4. Наша тусоўка дамовілася сустрэцца ў наступным месяцы.



Ня буду казаць, што гэты сэмінар спадабаўся на 100 адсоткаў, бо гэта будзе хлусьня, але калі я скажу, што ён спадабаўся на 80 адсоткаў, то не памылюся.

**Люся Варан**

# Вандроўка ў Антарктыду

*Усё пачыналася ў 1955 годзе, калі дызель - электраход "Об" выйшаў з порта Калінінград у кірунку самага паўднёвага матэрыка Зямлі. А праз два тыдні за ім у мора выйшла "Лена", на якой знаходзіўся мой дзед у якасці рабочага.*

Ішлі праз Балтыйскае мора, праз Кільскі канал (гэта Нямеччына, і галоўнае, што запомнілася, дык гэта тое, што там былі шлюзы), а з Кільскага канала — у Паўночнае мора, зь якога заходзілі ў Галяндыю, бралі паліва (невядома чаму менавіта там, але кіраўніцтва вырашыла...).



На самалётах для антарктычных падарожнікаў прывозілі самае жыцьцёва неабходнае

У Кільскім канале стаялі побач з замежным караблём. Праводзілі абмен сувэнірамі! Савецкім маракам была дадзена каманда: "Нічога ня браць у іншаземцаў!" Тыя толькі паглядалі са зьдзіўленьнем на савецкіх калегаў, ды не маглі зразумець, чаму яны не прымаюць ніякіх падарункаў, а самі аддаюць без усялякай сквапнасьці.

На падыходзе да Аўстраліі, ля порта Адэляіда, ведалі, што, магчыма, сустрэнуцца з былымі землякамі, тымі савецкімі людзьмі, якія зьехалі ў час



Сьвята ў Аўстраліі

Вялікай Айчыннай вайны (паліцаі ды і проста звычайныя людзі). Ніхто не чакаў, што іх набярэцца шмат. Але давялося зьдзіўляцца, таму што паглядзець на гасьцей з другога матэрыка сабралося вельмі многа народу. Большасьць тагачасных "карэнных жыхароў" Аўстраліі прыехалі з Украіны, але трапляліся аматары кенгуру і зь Ленінграда (зараз Санкт-Пецярбург). Затое добра павесяліліся й захавалі шмат добрых успамінаў, тым больш, што тады трапіць так далёка ад інтэрнацыянальнай Радзімы было зусім няпроста.

З Адэляіды пайшлі на Кейптаўн (горад і порт на поўдні Афрыкі). Пальмы, мора, пясок... Усё, што адбывалася тут, — прыгожа ды нерэальна адначасова настолькі, што ўзьнікае жаданьне ўшчыпнуць сябе за руку, каб упэўніцца, што ўсё гэта ня проста прыгожы сон. Карціна, што адкрылася перад гасьцямі з Савецкага Саюза, уражвала ўяўленьне: лазурнае мора, у якім вечаровае сонца пераліваецца зьзяючымі плямамі, белая пена хваляў, што мякка набягаюць на бераг. Але, напэўна, найбольш яркае ўражаньне пакінулі цёмнаскурыя наведвальнікі гэтых пляжаў. Вось падумайце, дзе можна было тады сустрэць іх у СССР, напэўна, толькі ўва Ўнівэрсітэце Дружбы народаў імя Патрыса Лукумбы (я правільна ўзгадала назву?).

А з Кейптаўна рушылі непасрэдна на поўнач, на Анктартыду. "Лена" й "Об" былі аднымі зь першых савецкіх падарожнікаў тут.

Шлях да Антарктыды атрымаўся доўгім, дабіраліся амаль што месяц.

Пасьля таго, як прысталі да берагоў Антарктыды, пачалі выгружацца ды прабіваць ільды. Потым настала чарга санна–трактарных цягнікоў углыб Антарктыды на станцыю Камсамольск. Давялося папрацаваць па дванаццаць гадзінаў у суткі, не шкадуючы сваіх сілаў. На трактарох працавалі хлопцы з Поўначы Расеі, у асноўным гэта былі вайсковыя, якія там праходзілі службу і якіх для гэтага выпадку пераапранулі ў цывільнае адзеньне. Менавіта зь іх шэрагу і быў мой дзед.

У Антарктыдзе прабылі ўсё анктарктычнае лета (2,5 месяцы). Потым пачаліся халады, а зь імі антарктычная зіма. На працягу цёплых часоў пабудавалі хаткі-часоўкі з выхадам праз дах, каб сьнегам не замяло. Там пакінулі адных толькі вучоных (хай самі мерзнуць!), усе астатнія адправіліся ў Калінінград. І толькі праз год вярнуліся зноў. Па прыбыцьці ўбачылі, што да хатак працягнуты вяроўкі. Гэта быў своеасаблівы арыентыр для тых, хто застаўся тут на зімоўку для вывучэньня Антарктыды. Будаўніцтва працягвалі далей ужо агульнымі намаганьнямі. Давялося стаць сьведкам і трагічных падзей. Пры разгрузцы карабля нечакана ў сьнег праваліўся трактар, адзін з вайсковых прапанаваў сваю дапамогу. Ніхто ня ведаў, што трактар будзе толькі глыбей правальвацца і ў адзін момант пойдзе пад лёд. Чалавека выратаваць не атрымалася, яму калегі паставілі гранітны помнік побач са скалой.



Высадка

З надыходам новай антарктычнай зімы рабочыя ізноў адправіліся ў далёкае падарожжа да родных берагоў. На гэты раз назаўсёды. Так і скончылася вандроўка ў Антарктыду, а мне і, можа, вам застаецца толькі пашкадваць, што яна была не для нас...

**Унук свайго дзеда**

# Ізноў восені партрэт прырода вешае ў гасьцёўні



Сёньня ў Восені прыгожы настрой. Яна зараз вярнулася з гасьцей. Была ў Лета. Лета паказала ёй скончаны аўтапартрэт, і ёй таксама захацелася напісаць свой. Калі хто-небудзь штосьці робіць добра, хочацца стварыць нешта падобнае.

Дзякуй богу, пісаць яна ўмела. Іх усіх вучыла гэтаму спадарыня Прырода ў сваёй вядомай мастацкай школе. Восень пісала па-свойму, у своеасаблівай, адной ёй уласцівай манэры, якая адрозьнівалася ад летняй, вясновай ды нават зімовай. Спадарыня Прырода заўсёды хваліла яе. Але ж хваліла яна і ўсіх астатніх — улюбёнцаў у яе не было.

У Восені былі свае фарбы, але чамусьці ёй захацелася паспрабаваць летнія. Яна папрасіла ў Лета некалькі збаночкаў зь зялёнай фарбай, па дарозе да дому забегла да вавёркі па новыя пухнатыя пэнзлікі і, вярнуўшыся, села пісаць.

Першы тыдзень яна пісала, не выходзячы з хаты, цалкам паглыбіўшыся ў працу. Толькі разок забегла да Лета на яблычны пірог. Вярнуўшыся дахаты, кінула позірк на карціну ды расхвалявалася: "Не, ня тое! Сама да сябе не падобная". Карціна хутчэй была падобная да Лета, чым да яе самой.

"Ня трэба было мне так доўга разглядаць яго аўтапартрэт. Я, сама таго не заўважаючы, капіюю яго манэру. А, мабыць, гэта яго фарбы вінаватыя? Так шмат зеляніны. Вазьму-тка я лепей свае", — вырашыла яна ды дастала сваю яркую палітру. У пакоі нібыта стала сьвятлей. Восень прымружылася ды зрабіла некалькі мазкоў. "То-та! Гэта ўжо бліжэй да праўды!"

Яна паглядала на сябе ў люстра ды пісала. На хальсце яркімі агеньчыкамі ўспыхвала жоўта-аранжавае лісьце, яна прыбірала ім свае косы, уплятала ў косы чырвоныя гронкі рабіны.

Вечарком на гарбату зь ліпавым мёдам забегла Лета. Залюбавалася напісаным, а потым засумавала:

— Ведаеш, падобна да мяне. Толькі пастаўлены вось гэтыя жоўтыя лісты, як мае сівыя валасы. Ды з кожным днём, то бок з кожным тваім мазком, іх зьяўляецца ўсё больш ды больш...

— Ну што ты, зусім да цябе не падобна! Гэта я, і з кожным днём партрэт робіцца ўсё лепей ды лепей, — запратэставала Восень і адным узмахам пэнзліка ўпрыгожыла свае мочкі любімымі рабінавымі завушніцамі.

Калі Лета сышло, Восень засталася ў задуменьні. "А, мабыць, Лета мае рацыю." Яна разззлавалася на яго й на сябе. Настрой непапраўна сапсаваўся.

Яна сарвала з галін ды валасоў яркія лісты, парвала рабінавыя каралі, параскідвала пацеркі па ўсёй карціне ды горка заплакала восеньскім дажджом. Восень праплакала ўсю ноч. Сьлёзы падалі на холст ды разводзілі восеньскую слоту.

Раніцой, з двума келіхамі гарачага грогу ў руках, у пакой зайшла суседка Восені, бабулька Зіма. Яна напаіла Восень грогам, паклала на канапу, накрыла пледам у кратачкі й гладзіла па галаве да тога часу, пакуль тая не заснула.

Гразь схапілася яе халоднымі рукамі і стала першымі замаразкамі. Потым зіма выцягнула з кішэні фартучка слоічак бялілаў ды зацерушыла шэры лёд сьняжком.

— Так яно лепей, а то гразі разьвялі!.. — пра сябе падумала акуратыстка Зіма, нахіліла галаву ды яшчэ раз зірнула на холст.

"Эх, як Восень падобная да мяне ў маладосьці", — уздыхнула старэнькая й зьнікла ўпрочкі.

...За вокнамі падаў першы сьнег, ды снегіры ляніва падзёўбвалі раскіданыя рабінавыя пацеркі.

**Мальвіна**

**Да нас прыйшоў ліст (радасьць-та якая!). Не пасьпеў нават першы нумар выйсьці. Выношу яго на ваш чытацкі суд. Калі вы ведаеце такія ж вясёлыя (а, можа, і весялейшыя) гісторыі — пішыце. Заўсёды будзем усьцешаны бачыць вашыя эпісталяркі.**

# Пицца

Здравствуй, "КАВАРДАЧОК"!

Пишу тебе это письмо потому, что хочу рассказать тебе одну забавную историю, которую я услышала от своей подруги. Все имена в этой истории изменены, поэтому не пытайтесь"уколоть" вашего знакомого с таким именем. А вот и сама история.

Маша мне рассказала, что однажды к ней в гости зашёл Вадим со своим другом. Они немного поговорили о том о сём и Вадим уже собирался уходить, но вдруг он неожиданно спросил, чем Маша собирается заниматься. На это она ответила, что будет готовить пиццу. Уставшее лицо Вадима мгновенно сменилось. На его лице появилась вопрошающая улыбка ребёнка,он проглотил слюну и недоверчиво спросил: "Пиццу?"

На этот вопрос она ответила положи-



Пиццу?

тельно и предложила остаться. Вадим с удовольствием согласился,но его друг Вася начал ему напоминать, что они приехали ненадолго. Вадиму очень хотелось попробовать пиццу, и он предложил бросить спичечный коробок, одна сторона которого — "пицца", а вторая — "дом". И чтобы Вася ничего не имел против, если выпадет "пицца", предложили бросить ему коробок. Он его бросал с уверенностью, что выпадет "дом", Вадим выжидающе смотрел на Васю, а Маша выжидающе смотрела на обоих и молила Бога о"пицце".

Выпала "пицца". Маша непроизвольно, одновременно с Вадимом выкрикнула: "пицца"!

Вася собрался уходить, и Вадим решил пожертвовать пиццей ради друга. Потом он попросил оставить ему кусочек, но как было не согласиться после всего?

Каково было удивление Вадима, когда Маша позвонила ему домой и пригласила на "пиццу". А ещё больше он удивился, когда увидел пиццу почти нетронутой. Маше было очень приятно принимать поздравления, а ещё больше смотреть на счастливое лицо Вадима.

**Ганна**

# НЕШТА ПРА ГАЛЯНДЫЮ

*Вам было калі-небудзь цікава, як жывуць у Галяндыі? Распавесьці? Ну, добра. Вы можаце, канечне, спытаць, адкуль я гэта ведаю. Натуральна, ніколі ня быўшы ў краіне, даведацца аб гэтым можна толькі зь першых вуснаў. 16-17 кастрычніка ў Гомлі адбыўся сэмінар ЗБСу ( Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў), у якім бралі ўдзел нашы галяндзкія сябры-студэнты з арганізацыі LSVB (Нацыянальны Нідэрляндзкі Студэнцкі Саюз) Стывен ды Франка. Я не ўтрымалася і ўзяла ў іх інтэрвію.*

**Я:** — Наколькі я ведаю, у Беларусі вы ўпершыню. Ну, і як вам?

**Стывен:** — Так файна... Так незвычайна!

**Франка:** — Мне вельмі падабаецца.

**Я:** — Цікава, ці адрозьніваюцца галяндзцы ад беларусаў? Я маю на ўвеце вонкавы выгляд, паводзіны...

**С:** — Студэнты аднолькавыя, а вось людзі сталага веку зусім не падобныя на галяндзцаў.

**Я:** — Як моладзь ў Галяндыі бавіць свой вольны час? Можа ёсьць нейкія нефармальныя групоўкі?

**Ф:** — Гэта натуральна.У нас вельмі шмат спартоўцаў, маладыя людзі тусуюцца ў студэнцкіх клюбах, наладжваюць разнастайныя вечарыны, п'юць піва, слухаюць музыку...(я думаю, і ня толькі... — Рэд. заўвага). Вельмі модныя зараз выезды на пікнікі.

**Я:** — А як наконт музыкі?

**С:** — О-о-о! Гэта цяжкое пытаньне. Густы такія розныя. На вечарынах ідзе ў прыватнасьці электронны haos, а дома слухаюць ад Бетховена да мэталу.

**Я:** — І мне, і нашым чытачам, я спадзяюся, цікава, якая сыстэма адукацыі ў Галяндыі?

**Ф** (сьмяецца): — Шчыра кажучы, я навучаюся ўжо чацьверты год і зараз на... другім курсе. Для нашай краіны гэта нармалёва: у нас няма тэрміну здачы залікаў ды іспытаў, калі хочаш, тады і здавай. Навучаньне ў Галяндыі платнае, але студэнты атрымліваюць неблагую стыпендыю, якая акупае навучаньне й забясьпечвае вартае жыцьцё.

**С:** — Дарэчы, пра стыпендыю. Ня так даўно дзяржава планавала не плаціць яе студэнтам, якія навучаюцца звыш 10 год... Але шматлікія студэнцкія забастоўкі й пратэсты паставілі ўсё на свае месцы: закон ня быў прыняты.

**Я:** — Як успрымаеца галяндзцамі нацыянальная ідэя?

**С** (сьмяецца): — Нацыянальная мова й культура існуюць, гэтай ідэі нічога не пагражае.У Галяндыі вашага пытаньня не зразумелі б.

**Я:** — Вы адчуваеце, што жывяце ў супэрдэмакратычнай краіне?

Ф: — Так, гэта адзін з паказчыкаў, за які варта любіць Галяндыю!!! Дэмакратыя — гэта вельмі важна.

С: — Я заўсёды ведаю, што мае праблемы будуць вырашаны, а мае ідэі знойдуць падтрымку. А калі няма арганізацыі, што адпавядае маім інтарэсам, я зраблю яе.

Я: — Адзін з паказчыкаў супэрдэмакратыі ў Галяндыі — легалізацыя марыхуаны...

С: — Так! Насамрэч, мы з Франкай не ўжываем марыхуаны. Легалізацыя наркотыкаў такога кшталту дазваляе нам адносіцца да растаманаў, як да людзей, не падобных да нас, а да наркаманаў, як да хворых. У вас жа да іх адносяцца, як да злачынцаў. Згадзіцеся, у краінах, дзе марыхуана забаронена, яе не ўжываюць меней.

Я: — На чым спыніць размову, як не на гэтым? Дзякуй, Стывен, дзякуй, Франка! Ці пажадаеце што-небудзь беларускаму студэнцтву?

Ф: — Па-першае, я пажадаю сабе... вярнуцца ў Беларусь, а вам... Ну, а вам да таго часу пабудаваць дэмакратыю і студэнцкае самакіраваньне.

С: — Верце ў сябе, у сваю краіну.Ніхто ня зробіць Беларусь лепш, акрамя вас саміх.

...Пасьля падарункаў і пажаданьняў нашых сяброў, пасьля піва і цудоўнага восеньскага парку неяк сумна было вяртацца ў цывілізацыю. Аў душы яшчэ жыве надзея: "Можа, і нам давядзецца некалі быць гасьцямі ў далёкай Галяндыі."

**Алена**

# Показкі

Пазнаёміліся хлапец з дзеўчынай.
Дзеўчына і кажа хлапцу:
- Ты ні з кім не сустракаешся?
Хлапец уздыхае.
-Сустракаюся.
Дзеўчына вырашыла даведацца пра магчымую саперніцу.
-Ну і хто яна?
-Да ёсць там адная замужняя...
Дзеўчына адразу павесялела (хаця чаму тут радавацца?).
-І ўсё ж такі, хто яна?
-Да жонка мая...

Сын просіць у бацькі:
-Кушаць хачу.
Той толькі адмахваецца.
-Што ж ты за чалавек такі? Я ў твае гады касманаўтам хацеў стаць.

Размаўляюць жонкі «новых беларусаў».
-Уяўляеш, мой - такая сволач...
-Чаму ты так раптам вырашыла?
-Дык вось, папрасіла ў яго трыста баксаў на салон прыгажосьці, а ён уважліва на мяне паглядзеў і даў шасцьсот...

На дзень народзін Пятачок Віні Пуху падараваў соты тэлефон. На наступны дзень мядзведзь у яго пытаецца:
-Што ж гэта ты мне, свіньня гэтакая, падараваў?
-Соты тэлефон, Вінні...
-Дык я ж увесь вечар у ім калупаўся і ні сот не мёду не адшукаў!

Дырэктар расказвае падначаленным нейкую показку «з барадой». Усе смяюцца з усёй моцы, і тоькі адзіу маўчыць і глядзіць у вакно. Дырэктар здзіўленна ў яго пытаецца:
-А вы чаму не смяецеся?
Той «пафігістскі» махнуў рукой.
-А навошта? Усё роўна першага звальняюся.

# Сьваточны пірог

# Сьваточны пірог

Татьянчик! Поздравляю тебя с днём рождения! Желаю тебе отличной учёбы в ЛПУ, здоровья, хорошего настроения, счастья и удачи!!!
**Твоя подруга Анечка**




Архипова Таня! Поздравляю тебя с тем, что ты стала крёстной мамой своего племянника Владика.
**Анна**

Наташка! Очень хочем поздравить тебя с тем, что ты заняла второе место в конкурсе «Мисс Осень-2000». Так что поздравляем!!!
**Твои подруги Таня и Аня**

Ключик, радость моя, с днём тебя. Не помню, правда, когда он был. Учись, радость моя. Чего ещё в жизни надо? Денег побольше и счастья, особенно на личной почве.
**Неизвестный доброжелатель**

**Віншую рэдактара «Кавардачка» зь першым нумарам. Вялікіх творчых посьпехаў і паболей добрых аўтараў. Менавіта гэтага не хапае з самага пачатку (толькі потым пачынае не хапаць грошаў). Не разумею, чаму няма віншаваньняў на беларускай мове.**
**Газэтка «Ратуша» й часапіс «Deletant» з найлепшымі пажаданьнямі**




Вова, поздравляю тебя с твоим Днём рождения.
Я желаю тебе в день рождения,
Чтобы путь твой дальнейший земной
Постоянным был восхожденьем
В непрестанном труде над собой.
Будь всё время красивым
Собой и душой,
Будь всё время любимым,
Летом, зимой и весной.
Будь всё время счастливым
В этот день и всегда.
Желаю успехов в твоих начинаниях.
**Таня**

Катя! Поздравляю тебя с Днем рождения.
Я желаю тебе в День Рождения
Чтобы путь твой дальнейший земной
Постоянно был восхождением
В непрестанном труде над собой.
И победами, слышишь, победами
Пусть наполнится жизнь твоя
Над невзгодами и над бедами.
От души поздравляю тебя!
**Сестра Таня**

Алёнка! Поздравляю тебя с Днём рождения! Желаю тебе всего того, чего ты сама себе желаешь!
Храни тебя судьба
От мрака и недуга,
От умного врага
И мелочного друга.
И дай тебе Господь,
Коль это в его власти,
Здоровья, долгих лет
И много-много счастья!
**Сестра Таня**

Ирка! Поздравляю тебя с Днём рождения! Желаю тебе:
Жить бодро, весело и смело,
Чтоб никогда не надоело
Смеяться, песни петь, шутить.
Желаю жизнь до дна испить!
**Подарок**

Маринка! Поздравляю тебя с Днём Рождения!
Желаю тебе как подруге
Шагать по прямому пути,
Шутить и смеяться,
Любить и влюбляться,
Хорошего друга найти!
**Подарок**



ПОДАРОК!

Поздравляю тебя с днём твоего варенья.
У меня пожеланий есть немало,
Всех тебе не перечесть,
Одного тебе желаю,
Быть такой, какая есть.
**Марина**

Олег, поздравляю тебя с днём рождения.
Пусть этот день не шумный праздник,
Не красный он в календаре,
Но в этот день под солнцем ясным
Ты появился на земле.
Жеаю благ тебе земных,
Я знаю, ты достоин их.
**Соседка**

Кавардачок
Інфармацыйнае выданьне для ўсіх
№ 1, лістапад

**Рэдактар:** Марына Семянчук
**Карэктар**: Надзея Дзенісенка
**Вёрстка:** Вольга Аднаколава
**Мастак:** Кацярына Калініна

246032, г. Гомель, вул. Юбілейная, 12-1, «Кавардачок»
(0232) 561944, 577538

**Падзякі:**
Моладзеваму цэнтру «Гарт», Грамадзкаму аб'яднаньню «Грамадзянскія ініцыятывы», Газэце «Ратуша»